**РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

# Г А Д А В І К

# 2016



# ЗЬМЕСТ

# Вітаньне ад Старшыні Рады БНР




Шаноўныя сябры,

2016 год быў годам адразу некалькіх важных юбілеяў – як сьветлых, так і змрочных.

Перадусім, прамінулы год – гэта год 25-годзьдзя аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі. Дзякуючы шматгадовым намаганьням беларускага народу і дзякуючы ролі Беларускага Народнага Фронту ў вырашальныя часы 1990 і 1991 гг., нашая Бацькаўшчына вось ужо чвэрць стагодзьдзя як зьяўляецца паўнапраўным членам міжнароднай супольнасьці, агульнапрызнанай і паўнавартаснай дзяржаваю.

Разам з тым, гэты год азначыў сабою 30-я ўгодкі ад Чарнобыльскай катастрофы – найбуйнейшай экалягічнай катастрофы ў гісторыі чалавецтва, у эпіцэнтры якой апынулася нашая краіна – і 20-я ўгодкі ад сумнавядомага незаконнага рэфэрэндуму 1996 г., які стаў прыкрыцьцём для канчатковагаператварэньня незалежнай Беларусі ў дыктатуру. Рада БНР не абыйшла сваёй увагаю гэтыя і іншыя важныя падзеі.

У гэткай канцэнтрацыі гадавінаў ёсьць пэўны сымбалізм. У 1991 годзе Беларусь зрабілася незалежнай, але так і не зрабілася дэмакратычнаю, і лёс паслаў нам дадатковыя выпрабаваньні, празь якія наш народ павінен прайсьці на шляху да свабоды. Гэта азначае, што праца, якую на працягу дзесяцігодзьдзяў рабіла Рада БНР і ўся беларуская дыяспара ў сьвеце, застаецца актуальнай. Рада БНР застаецца вернай свайму мандату, атрыманаму ў 1917 годзе ў якасьці Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, і будзе набліжаць той дзень, калі зможа перадаць яго законным дэмакратычным уладам нашай Радзімы.

Івонка Сурвілла

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады БНР**

# Пра Раду БНР




Рада Беларускае Народнае Рэспублікі – найстарэйшая дзеючая беларуская палітычная і дзяржаўная інстытуцыя, захавальнік традыцый беларускага нацыянальнага руху ад пачатку мінулага стагодзьдзя.

Рада была сфармаваная ў якасьці Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, які прайшоў у сьнежні 1917 года ў Менску. Зьезд сабраў амаль 1900 дэлегатаў ад органаў мясцовага самакіраваньня, грамадзкіх і палітычных арганізацый усіх рэгіёнаў Беларусі.

У лютым і сакавіку 1918 г. Рада БНР у трох Устаўных Граматах абвесьціла Беларусь суверэннай дэмакратычнай дзяржавай, у якой павінны гарантавацца і ахоўвацца ўсе асноўныя правы чалавека і дэмакратычныя свабоды. Тады Рада БНР выконвала функцыю часовага найвышэйшага калектыўнага органа дзяржаўнага кіраваньня на Беларусі. Яе задачаю была падрыхтоўка да правядзеньня Ўстаноўчага Сойму, на якім мелі быць прынятыя базавыя законадаўчыя акты і распачаты працэс фармаваньня пастаянных органаў улады ў краіне. Савецкая акупацыя Беларусі не дазволіла гэтым плянам спраўдзіцца.

Ад 1919 г. Рада БНР дзейнічае ў выгнаньні. За гэты час Рада як прадстаўнік інтарэсаў Беларусі ў вольным сьвеце ўсталявала шчыльныя рабочыя кантакты з урадамі і дыпляматычнымі службамі многіх дзяржаваў, арганізавала шматлікія інфармацыйныя і адукацыйныя праекты, ад стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў у заходнеэўрапейскіх унівэрсытэтах да выданьня беларускае літаратуры і пэрыёдыкі. Намаганьнямі Рады БНР было арганізаванае вяшчаньне беларускае службы “Радыё Свабода”, якое па сёньняшні дзень застаецца важным беларускім сродкам масавае інфармацыі.

Адной з задачаў Рады было і застаецца інфармаваньне грамадзкасьці і палітычных колаў краінаў вольнага сьвету аб Беларусі і яе становішчы. Прадстаўнікі Рады БНР неаднаразова выступалі ў Парлямэнце Вялікай Брытаніі, мелі сустрэчы з вышэйшым кіраўніцтвам Злучаных Штатаў Амэрыкі, Канады, Чэскае Рэспублікі і іншых краінаў. Дзякуючы высілкам

Рады БНР яшчэ ў 20-х гг. ХХ стагодзьдзя кіраўнцтва краінаў Захаду было праінфармаванае аб самастойных інтарэсах беларускага народу і пра яго дзяржаўніцкія памкненьні. Менавіта Рада БНР за шмат дзесяцігодзьдзяў пасьлядоўнае працы падрыхтавала глебу для прызнаньня міжнароднай супольнасьцю незалежнасьці Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе.

Пасьля распаду СССР і камуністычнага блёку аналягічныя экзыльныя дзяржаўныя структуры іншых краінаў нашага рэгіёну – польскі, украінскі і эстонскі ўрады у выгнаньні, латвійская дыпляматычная служба ў выгнаньні і іншыя – склалі свае паўнамоцтвы на карысьць дэмакратычна абраных уладаў сваіх краінаў. За кароткі час адносна дэмакратычнага разьвіцьця Беларусі Рада БНР не пасьпела гэтага зрабіць: сфармаваны ў 1990 годзе Вярхоўны Савет БССР XII скліканьня яшчэ ня мог лічыцца дэмакратычна абраным парлямэнтам незалежнае Беларусі, а выбары ў Вярхоўны Савет XIII скліканьня ў 1995 годзе прайшлі зь істотнымі парушэньнямі ва ўмовах набіраючага моц аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

Сучасная місія Рады БНР палягае ў прадстаўніцтве інтарэсаў незалежнай і дэмакратычнай Беларусі ў сьвеце. Рада ўключае восемдзесят членаў (“радных”), якія прадстаўляюць беларускія арганізацыі з 15 краінаў: Аўстраліі, Бэльгіі, Вялікай Брытаніі, ЗША, Канады, Латвіі, Літоўскай Рэспублікі, Нямеччыны, Польшчы, Расеі, Украіны, Францыі, Чэхіі, Швэцыі, Эстоніі. Кожныя два гады Рада БНР праводзіць Сэсіі, паміж якімі пастаянна дзеючым органам застаецца Прэзыдыюм Рады.

# Старшыня Рады БНР

З Статуту Рады БНР:

*§22. На чале Рады БНР стаіць Старшыня Рады БНР.*

*§23. Старшыня Рады БНР — найвышэйшы прадстаўнік Рады БНР і Беларускага Народу. Яго абірае Рада БНР на Сэсіі Рады БНР на тэрмін 6 гадоў. (…)*

*§25. Да кампэтэнцыі Старшыні Рады БНР належыць:*

*а) рэпрэзэнтаваньне БНР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў;*

*б) прызначэньне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і прадстаўніцтвах іншых народаў;*

*в) іншыя справы, што вынікаюць з займанага становішча, а не прызначаныя іншым органам.*

### Івонка Сурвілла, VII Старшыня Рады БНР

Нарадзілася ў 1936 годзе ў Стоўпцах. З 1944 году – у эміграцыі. Жыла ў Францыі, Даніі, Гішпаніі. Цяпер жыве ў Канадзе. Мае дзьвюх дачок.

Вучылася ў Вышэйшай Мастацкай Школе ў Парыжу. Скончыла лінгвістычнае аддзяленьне Сарбонскага Ўнівэрсытэту (1959). Акрамя роднае беларускае мовы валодае ангельскай, французскай, гішпанскай і дацкай мовамі, у мінулым таксама прафэсійна валодала нямецкай, лацінскай, нарвэскай, і польскай мовамі.

У 1959-1965 гадох працавала ў беларускай рэдакцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыё, выкладала французскую мову ў Французскім Інтытуце ў Мадрыдзе. З 1969 году і да апошняга часу працавала на розных пасадах у Бюро перакладаў пры Фэдэральным Урадзе Канады.

Займалася жывапісам, удзельнічала ў мастацкіх выставах.

У 1989 годзе арганізавала Канадзкі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі і заставалася яго кіраўнікам да моманту абраньня Старшынёю Рады БНР.

# Прэзыдыюм Рады БНР

З Статуту Рады БНР:

*§20. Прэзыдыюм Рады БНР складаецца з Старшыні Рады БНР, ягоных Першага Заступніка і Заступнікаў, Сакратара, Скарбніка і сяброў. Абірае іх, устанаўляючы пры гэтым колькасьць заступнікаў і сяброў, Сэсія Рады БНР на тэрмін 6 гадоў. Склад Прэзыдыюму можа быць зьменены рашэньнем Сэсіі Рады БНР паводле патрэбы. (…)*

*§21. Да кампэтэнцыі Прэзыдыюму Рады БНР належыць:*

*а) вядзеньне справаў Рады БНР у часе паміж ейнымі Сэсіямі;*

*б) дапільноўваньне выкананьня пастановаў Сэсіі органамі Рады БНР;*

*в) рэпрэзэнтацыя Рады БНР навонкі;*

*г) скліканьне Сэсіяў Рады БНР.*

# ПРЭЗЫДЫЮМ Рады БНР (працяг)

**Сяргей Навумчык**
Першы Заступнік Старшыні



У 1990-1995 гг. дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі XII скліканьня, каардынатар парлямэнцкай Апазыцыі БНФ.
Суаўтар Дэклярацыі аб Дзяржаўным Сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь.
Журналіст, аўтар шэрагу кнігаў па гісторыі станаўленьня незалежнай беларускай дзяржавы ў пачатку 1990-х.

**Вячаслаў Станкевіч**
Заступнік Старшыні



З 1990 па 1998 гг. дырэктар беларускай службы "Радыё Свабода", пазьней да 2013 г. выдавец квартальніка "Belarusian Review".
Старшыня Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў 1969-1971 і 2007-2011 гг.
Ад 2009 г. – Старшыня Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

**Мікалай Пачкаеў**
Заступнік Старшыні



Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі з 2013 г., перад гэтым – намесьнік старшыні ЗБВБ з 2004 па 2013 гг.

Актывіст Беларускага Народнага Фронту з 1989 г. Сябра заснавальнага камітэту і ўдзельнік устаноўчага сойму Маладога Фронту.
У мінулым сябра Міжнароднай Камісіі БНФ, дэлегацыі БНФ на кансультацыях дзеля перамоваў з уладамі за пасярэдніцтвам АБСЭ, прадстаўнік Партыі БНФ у шэрагу краінаў.

# ПРЭЗЫДЫЮМ Рады БНР (працяг)

**Вячаслаў Бортнік**
Сакратар

**Сяргей Пятровіч**
Скарбнік

**Алесь Чайчыц**
Сакратар Інфармацыі

**Ала Кузьміцкая**
Пратакольны Сакратар

**Ала Орса-Романо**
Сакратар Адукацыі

**Валянціна Трыгубовіч**
Архівіст

**Алесь Кот**

**Хведар Нюнька**

**Сяргей Пяткевіч**

**Аляксандр Старыкевіч**

**Ганна Сурмач**

**Павал Шаўцоў**

# 2016 год у падзеях

- Напрацягу 2016 году афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь паступова наладжвалі дыялёг з краінамі Захаду. Гэты працэс не суправаджался істотнымі захадамі па дэмакратызацыі палітычнага і грамадзкага жыцьця ў Беларусі. Эканамічная сытуацыя ў Беларусі паступова працягвала пагаршацца.

- 29 сакавіка ня стала Ніла Гілевіча, выбітнага беларускага паэта.

- У красавіку быў асуджаны па палітычных артыкулах («Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», «Абраза прадстаўніка ўлады», «Абраза суддзі або народнага засядацеля») блогер і 80-гадовы пэнсіянэр Аляксандр Лапіцкі, які займаўся ўласным рассьледваньнем тэрарыстычнага акту ў Менску ў 2011 г. У лістападзе А. Лапіцкі быў накіраваны на прымусовае лячэньне ў псыхіятрычны шпіталь.

- 23 чэрвеня большасьць грамадзянаў Вялікай Брытаніі прагаласавала за выхад краіны з Эўрапейскага Зьвязу.

- У чэрвені па справе аб беспарадках 19 сьнежня 2010 г. быў арыштаваны 39-гадовы Ўладзімер Кондрусь. Праваабарончыя арганізацыі прызналі яго палітычным вязьнем. У. Кондрусь трымаў галадоўку ў знак пратэсту супраць свайго арышту, зьдзейсьніў спробу самагубства.

- 20 ліпеня ў Кіеве быў забіты беларускі журналіст Павал Шарамет, былы палітычны вязень, стваральнік сайту “Беларускі Партызан”.

- 11 верасьня ў Беларусі адбыліся “выбары” ў Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу. Упершыню за многія гады ў парлямэнт Рэспублікі Беларусь былі дапушчаныя хаця б два незалежныя ад уладаў дэпутаты. Выбары тым ня меней не адпавядалі дэмакратычным стандартам, што было пацьверджанае ў заявах многіх міжнародных арганізацый.

- 28 кастрычніка быў вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыезьдзе Эдуард Пальчыс, палітычны вязень і блогер, арыштаваны ў 2015 г.

- 8 лістапада наступным прэзыдэнтам ЗША абраны Дональд Трамп, насуперак большасьці ранейшых прагнозаў.

- У канцы году актывізавалася нацыяналістычная і скіраваная супраць Беларусі прапаганда ў расейскіх СМІ, кантраляваных Крамлём. Некалькі аўтараў антыбеларускіх публікацый былі арыштаваныя ў Беларусі.

- У сьнежні 2016 г. былі зьнятыя апошнія фармальныя перашкоды на шляху да атрыманьня Грузіяй і Ўкраінаю бязьвізавага ўезду ў краіны Эўрапейскага Зьвязу.

- На канец году за кратамі заставаліся палітвязьні Ўладзімер Кондрусь, Міхаіл Жамчужны і Аляксандар Лапіцкі. Многія іншыя былыя палітвязьні, вызваленыя раней, дагэтуль заставаліся не рэгабілітаванымі.

- **27 лютага** Сакратар Інфармацыі БНР Алесь Чайчыц выступіў у Менску на Канфэрэнцыі памяці Міністра ваенных справаў БНР генэрала Кіпрыяна Кандратовіча “2015: Беларусь і рэгіён”. Ягоны даклад быў прысьвечаны актуальнай сытуацыі ў расейска-беларускіх стасунках з улікам становішча ўнутры Расеі.

- **18 сакавіка** ў Нью-Ёрку адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР.

- **19 сакавіка ў Нью-Ёрку адбылася XXIX Сэсія Рады БНР**. У ходзе Сэсіі былі заслуханыя справаздачы Старшыні, Скарбніка і профільных Сакратароў, а таксама былі абмеркаваныя ўнутраныя пытаньні працы Рады БНР. На пасаду Старшыні Рады БНР была пераабраная Івонка Сурвілла. Першым Намесьнікам Старышыні быў пераабраны Сяргей Навумчык, Намесьнікамі пераабраны Вячка Станкевіч і абраны Мікола Пачкаеў.

  Удзельнікі Сэсіі абмеркавалі ўнутрыпалітычную сытуацыю ў Беларусі і міжнародную абстаноўку ў рэгіёне. Былі прынятыя некалькі рэзалюцыяў, у тым ліку рэзалюцыя “Аб уцягваньні Беларусі ў зону вайсковых інтарэсаў Расеі”, у якой Рада выказвае занепакоенасьць здольнасьцю Ўзброеных Сілаў Беларусі ў цяперашнім іх стане абараніць незалежнасьць дзяржавы і патрабуе як мага хутчэйшага вываду расейскіх ваенных аб’ектаў зь Беларусі. У асобнай рэзалюцыі аб стаўленьні Захаду да рэжыму А. Лукашэнкі Рада БНР крытыкуе цяперашнюю палітыку ЭЗ адносна Беларусі як недальнабачную і асуджае зьняцьцё санкцый без выкананьня афіцыйным Менскам ранейшых патрабаваньняў адносна дэмакратызацыі і правоў чалавека.

  Камэнтуючы вынікі працы Сэсіі, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла адзначыла:

*“У цяперашні час, калі ўзмацняюцца агрэсіўныя памкненьні Расеі, роля Рады БНР як легітымнага прадстаўніка інтарэсаў незалежнай і вольнай Беларусі робіцца важнейшаю. Рада надалей працягвае сваю працу згодна з мандатам Усебеларускага Зьезду 1917 г. і трыма Устаўнымі граматамі 1918 г.”*

  Сэсія Рады БНР – найвышэйшая інстанцыя ў працы Рады. Паводле Статуту Рады БНР, Сэсіі праходзяць кожныя два гады.

- **26 красавіка** споўнілася роўна 30 гадоў з Чарнобыльскай катастрофы. У заяве Рады БНР з гэтае нагоды адзначалася:

*"Беларусь больш за ўсе краіны пацярпела ад Чарнобылю і што наступствы гэтай катастрофы будуць адчувацца ў Беларусі многія стагодзьдзі. Траціна тэрыторыі Беларусі была забруджаная радыяцыяй, вялікія абшары зрабіліся непрыдатнымі да жыцьця чалавека. Рэзка вырасьлі паказьнікі захворваньня беларусаў на хваробы, выкліканыя наступствамі Чарнобыльскай аварыі – у першую чаргу, анкалягічныя.*

*Рада БНР заяўляе, што прамую адказнасьць за Чарнобыльскую катастрофу і яе наступствы для Беларусі нясе таталітарны камуністычны рэжым – як цэнтральныя агульнасаюзныя ўлады, так і акупацыйныя "рэспубліканскія" ўлады БССР."*

- **3-5 верасьня** кіраўніцтва Рады БНР ўзяло ўдзел у 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла выступіла з прывітальным словам перад удзельнікамі Сустрэчы. У сваім выступе яна адзначыла:

*"Я спадзяюся, што гэтая Сустрэча запачаткуе новую эру ў жыцьці беларускае дыяспары ў Паўночнай Амэрыцы. Бо мы маем у нашых руках вялізарныя магчымасьці прыцягнуць увагу сьвету на наш уклад у культурную скарбніцу чалавецтва. Гэта тым болей важна, што на бацькаўшчыне беларуская культура ня толькі не зьяўляецца прыярытэтам дзяржавы, але маргіналізуецца."*

- **5 верасьня** ў Атаве адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР.

- **23 верасьня Рада БНР** выступіла ў падтрымку наданьня беларускаму нацыянальнаму бел-чырвона-беламу сьцягу афіцыйнага статусу нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасьці, які ўжо мае герб "Пагоня". У адпаведнай заяве адзначалася:

*"Бел-чырвона-белы сьцяг – сымбаль руху за незалежнасьць Беларусі. Сваімі каранямі ён абапіраецца на старажытныя традыцыі беларускай дзяржаўнай сымболікі."*

*"Пад бел-чырвона-белым сьцягам Беларусь адрадзіла сваю незалежнасьць і зрабілася агульнапрызнаным членам міжнароднай супольнасьці ў 1991 годзе. Менавіта гэты сьцяг быў падняты на першых амбасадах*

*незалежнай Беларусі ў Вялікай Брытаніі, Нямеччыне, ЗША, Расеі і іншых краінах.*

*Бел-чырвона-белы сьцяг усё 20. стагодзьдзе быў сымбалем незалежнай беларускай дзяржаўнасьці і беларусаў незалежна ад палітычных поглядаў.”*

- **9 кастрычніка** Сакратар Інфармацыі БНР Алесь Чайчыц выступіў у рамках VI Кангрэсу Дасьледчыкаў Беларусі, які прайшоў у Коўна. У сваім выступе ён даў характарыстыку прысутнасьці Беларусі ў расейскім інфармацыйным полі, абазначыў асноўныя рызыкі для Беларусі.

- **30 кастрычніка** Рада БНР ад імя Беларусі далучылася да Дэкларацыі Памяці і Салідарнасьці, перад гэтам падпісанай парлямэнтамі Польшчы і Ўкраіны. У прынятай Радаю дэкларацыі зьвярталася ўвага на “недалучэньне Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусі да Дэкларацыі памяці і салідарнасьці; на тое, што цяперашняя афіцыйная ўлада ў Беларусі адкрыта пазыцыянуе сябе ў якасьці пераемніка і прадаўжальніка палітыкі таталітарнага савецкага рэжыму”

  Таксама падкрэсьлівалася:

*“пакт Рыбэнтропа-Молатава ад 23 жніўня 1939 года, заключаны паміж двума таталітарнымі рэжымамі - камуністычным Савецкім Саюзам і нацыстоўскай Нямеччынай, прывёў да выбуху 1 верасьня Другой Сусьветнай вайны, выкліканай агрэсіяй Нямеччыны, да якой 17 верасьня далучыўся Савецкі Саюз. Вынікам гэтых падзей была акупацыя тэрыторыі нашых краінаў. Наступствам акупацыі сталі масавыя рэпрэсіі супраць нашых народаў.”*

*“слабасьць міжнароднай рэакцыі на эскаляцыю перад Другой Сусьветнай вайною таталітарных і шавіністычных ідэалёгій, адсутнасьць належнай рэакцыі на парушэньні з боку агрэсараў міжнароднага права, а таксама палітыка саступак заахвоціла камуністычны і нацыстоўскі рэжымы да агрэсіі, а ў выніку - да падзелу Эўропы”*

*“Заклікаем усе народы Эўропы памятаць пра прычыны і наступствы Другой Сусьветнай вайны, а таксама прыкласьці сумесныя намаганьні для абароны бясьпекі і свабоды.”*

- **17 лістапада** Сакратар Інфармацыі БНР Алесь Чайчыц узяў удзел у круглым стале, прысьвечаным узаемадзеяньню Беларусі і беларускай дыяспары. Мерапрыемства было арганізаванае ОДБ Брусэль у партнэрстве з TNU Network University (Нідэрлянды), беларускім моладзевым грамадзкім аб'яднаньнем "New Faces" і Згуртаваньнем беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". У сваёй прэзэнтацыі А. Чайчыц разважаў аб патэнцыяле і магчымасьці ўзаемадзеяньня з маладымі беларусамі-прафэсіяналамі, якія дасягнулі кар'ерных і прафэсійных посьпехаў за межамі Беларусі. У выніковым мэмарандуме, прынятым па выніках мерапрыемства, адзначалася:

*"Прадстаўнікі дыяспары - гэта людзі, якія знаходзяцца ў іншай краіне, якім давяраюць іхныя калегі, сябры, суседзі і якія могуць пераканаць усіх у тым, што нашая краіна заслугоўвае інтарэсу з пункту гледжаньня турызму, бізнэсу, культуры і іншага. Калі краіна ня мае стратэгіі працы з дыяспарай, яна губляе вялікія магчымасьці."*

*"Больш як трохмільённая беларуская дыяспара – гэта велізарны патэнцыял краіны і рэсурс, якому штогод трэба даваць усё больш увагі як з боку грамадзкасьці, так і з боку бізнэсу і дзяржавы. Беларуская дыяспара – гэта нашая "мяккая сіла" ў іншых краінах, гэта партнэр у прыцягненьні інвэстыцый, know-how у сфэры эканомікі, навукі, культуры, адукацыі."*

- **5 сьнежня** пачаў працу абноўлены сайт Рады БНР: www.radabnr.org. Абноўлены сайт прысьвечаны выбітным дзеячам беларускага нацыянальнага руху і падзеям у гісторыі беларускай дзяржаўнасьці, мерапрыемствам і спадчыне беларускае дыяспары. Колькасьць падпісчыкаў старонкі Рады БНР у Facebook на канец году перавышала 2600 чалавек.

- **17 сьнежня** ў Лёндане адбылося асьвячэньне беларускай царквы ў гонар сьвятаначальніка Кірылы, біскупа Тураўскага і ўсіх сьвятых заступнікаў Беларускага народу. На адкрыцьці выступіў Заступнік Старшыні Рады БНР Мікалай Пачкаеў. У звароце Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы з нагоды асьвячэньня царквы адзначалася:

*"Новы беларускі храм будзе важным сымбалям беларускай культурнай прысутнасьці ў адным з найбольш важных гарадоў сьвету і месцам, дзе беларусы змогуць надалей маліцца Богу на мове сваіх продкаў. Сёньня вялікае сьвята для ўсіх беларусаў незалежна ад веравызнаньня і ад таго, у якой частцы сьвету яны жывуць."*




Падчас працы Сэсіі Рады БНР. Нью-Ёрк, 19 сакавіка 2016 г.







Сувэнірныя талеркі да Дня Волі, макет падрыхтаваны па замове Рады БНР.




Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла выступае на Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Атава, 4 верасьня 2016 г.



Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла на Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Атава, 4 верасьня 2016 г.




Сакратар Інфармацыі Рады БНР Алесь Чайчыц падчас круглага сталу аб узаемадзеяньні Беларусі і беларускай дыяспары. Менск, 17.11.2016




Асьвячэньне Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага і ўсіх заступнікаў Беларускага народу ў Лёндане, 17 сьнежня



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

10 сакавіка 2016 г.

**Заява**
**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з нагоды незаконнага ўтрыманьня расейскімі ўладамі Надзіі Саўчанка**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі падтрымоўвае патрабаваньні шматлікіх дзяржаваў і грамадзкіх арганізацый аб неадкладным вызваленьні Надзіі Саўчанка, украінскага афіцэра, якая была супрацьзаконна выкрадзеная расейскімі войскамі на тэрыторыі Ўкраіны і вывезеная ў Расею.

Рада БНР адзначае, што наяўная інфармацыя дазваляе зрабіць выснову, што абвінавачваньні супраць Н. Саўчанка ня маюць ніякіх падставаў і што судовы працэс супраць яе носіць відавочна неаб’ектыўны характар, а яе ўвязьненьне супярэчыць абавязальніцтвам, узятым Расеяю паводле Менскіх пагадненьняў.

Рада БНР адзначае, што змагаючыся за сувэрэнітэт і тэрытарыяльную цэласьць Украіны супраць падтрыманых Расеяй незаконных узброеных фармаваньняў і рэгулярных расейскіх войскаў, Н. Саўчанка выконвала свой абавязак як афіцэра і як патрыёта сваёй Бацькаўшчыны.

У сувязі з працэсам супраць Н. Саўчанка Рада БНР у чарговы раз канстатуе, што рэжым Уладзіміра Пуціна ў Расеі ўяўляе прамую пагрозу бясьпецы ў рэгіёне, у тым ліку пагрозу нацыянальнай бясьпецы і незалежнасьці Беларусі. Рада БНР заклікае спыніць усю вайсковую каапэрацыю Беларусі з пуцінскай Расеяй і ў тым ліку рашуча асуджае спробы разьмяшчэньня расейскіх вайсковых базаў на тэрыторыі Беларусі.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

---

19 сакавіка 2016 г.

**Рэзалюцыя**

**XXIX чарговай сэсіі**
**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

**Аб палітыцы Эўрапейскага Зьвязу да Беларусі**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, разгледзіўшы на XXIX чарговай сэсіі ў Нью-Ёрку стан палітыкі Эўрапейскага Зьвязу да Беларусі, заклікае супрацьстаяць тэндэнцыям у гэтай палітыцы да разыходжаньня як з падставовымі каштоўнасьцямі Эўрапейскага Зьвязу, гэтак і зь беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі ў галіне забесьпячэньня незалежнай і дэмакратычнай будучыні для Беларусі, і прыймае наступную Рэзалюцыю:

- **З увагі** на заявы Рады БНР, палітычных, грамадзкіх і праваабарончых арганізацыяў у Беларусі і ў замежжы, з заклікамі да захадаў міжнароднага супрацьдзеяньня палітычным рэпрэсіям, парушэньню палітычных правоў і правоў чалавека ў Беларусі з 1995 году, асабліва са спасылкаю на Зварот Рады БНР ад 28 сьнежня 2010 г. і Заяву Прэзыдыюму Рады БНР ад 18 кастрычніка 2013 г.,

- **Прыгадваючы** «Мэмарандум нарады старшыняў і кіраўнікоў беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў са Старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі „Аб захадах для забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі“» ад 3 лістапада 2012 г., у асаблівасьці ў п. 4: «Павінен быць мацнейшы скаардынаваны ціск палітычнай і грамадзянскай супольнасьці ў краіне і за яе межамі дзеля зьмяншэньня ў беларускім грамадзтве пачуцьця страху, найперш вызваленьня і рэгабілітацыі палітычных вязьняў, спыненьня палітычных рэпрэсіяў і дэмантажу рэпрэсіўнага апарату, свабоды для сродкаў масавай інфармацыі, а ўрэшце – правядзеньня свабодных выбараў»,

- **Прыгадваючы** матывацыйныя часткі рашэньняў Рады Эўрапейскага Зьвязу пры ўвядзеньні і падаўжэньні абмежавальных мераў супраць фізычных і юрыдычных асобаў, на падставах іх датычнасьці да арганізацыі палітычных рэпрэсіяў, бесчалавечнага абыходжаньня з ахвярамі, фальсыфікацыяў выбараў, падтрыманьня рэпрэсіўнага рэжыма, іншых цяжкіх парушэньняў грамадзянскіх, палітычных правоў і правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, асабліва са спасылкаю на: «Агульная пазыцыя Рады» [ЭЗ] №2004/848/CFSP ад 13 сьнежня 2004 г., «Агульная пазыцыя Рады» [ЭЗ] №2006/276/CFSP ад 10 красавіка 2006 г., «Рашэньне Рады» [ЭЗ] №2010/639/CFSP ад 25 кастрычніка 2010 г., «Рашэньне Рады» [ЭЗ] №2011/69/CFSP ад 31 студзеня 2011 г., «Рашэньне Рады» [ЭЗ] №2012/642/CFSP ад 15 кастрычніка 2012 г.,

- **Разглядаючы** рашэньне Рады ЭЗ аб прыпыненьні санкцыяў супраць згаданых вышэй юрыдычных і фізычных асобаў у Беларусі, прынятае шляхам «Рашэньня Рады» [ЭЗ] (CFSP) №2015/1957 ад 29 кастрычніка 2015 г., а таксама разглядаючы «Высновы Рады [ЭЗ] аб Беларусі» ад 15 лютага 2016 і «Рашэньне Рады» [ЭЗ] (CFSP) №2016/280 ад 25 лютага 2016 г., шляхам чаго названыя санкцыі былі скасаваныя, акрамя як супраць чатырох асобаў,

- **Супастаўляючы** рашэньні Рады ЭЗ (CFSP) №2015/1957 ад 29 кастрычніка 2015 і №2016/280 ад 25 лютага 2016, а таксама зьмест «Высноваў Рады [ЭЗ] аб Беларусі» ад 15 лютага 2016 – з адначасовымі высновамі прадстаўнікоў міжнародных арганізацыяў, у прыватнасьці:

-- «Канчатковая справаздача Місіі па назіраньні за выбарамі АБСЭ/БДІПЧ» на прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі 11 кастрычніка 2015 г. ад 28 студзеня 2016 г., у высновах якой адзначаецца, што згаданыя выбары не адпавядалі стандартам дэмакратычных, што для адпаведных рэформаў адсутная палітычная воля кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, што «наяўнасьць істотных праблемаў [...] ставіць пад сумнеў сумленнасьць выбарчага працэсу», і што вызваленыя палітычныя вязьні надалей пазбаўлены права вылучацца кандыдатамі на выбарах і знаходзяцца пад пагрозаю далейшых рэпрэсіяў;

-- Заява Прадстаўніка АБСЭ па справах свабоды прэсы ад 27 студзеня 2016 г., з асуджэньнем гвалту міліцыі супраць журналіста ў Беларусі, і з чарговым заклікам да ўладаў спыніць перасьлед прадстаўнікоў СМІ;

-- Заява Спэцыяльнага Дакладчыка ААН аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі ад 9 лютага 2016 г., дзе зазначаецца, што

«напрацягу чатырох месяцаў з часу прэзыдэнцкіх выбараў у кастрычніку, у Беларусі не было запачаткавана ніякіх зьменаў дзеля зьмены рэпрэсіўных законаў і практыкі, тады як паўсталі шматлікія выпадкі новых парушэньняў падставывых правоў», а таксама: «Нягледзячы на частковае прыпыненьне санкцыяў ЭЗ і ЗША, аб чым было выршана ў чаканьні далейшага паляпшэньня становішча з правамі чалавека, улады не спынілі сыстэматычны перасьлед тых, хто спрабаваў карыстацца сваімі асабістымі, грамадзянскімі палітычнымі і іншымі правамі»;

**Беручы пад увагу, што:**

I. Як даводзіцца, у прыватнасьці, высновамі міжнародных арганізацыяў – Рада ЭЗ прыпыніла, а пасьля скасавала дзеяньне названых санкцыяў насуперак таму, што тыя абставіны, факты і палітыка ўладаў у Рэспубліцы Беларусь, якія былі зафіксаваныя Радай ЭЗ 2006-2015 у якасьці законных падставаў для ўвядзеньня і падаўжэньня гэткіх санкцыяў, засталіся прынцыпова і ў цэлым нязьменнымі. Рада ЭЗ сама не сьцьвярджае аб зьнікненьні гэтых падставаў, а ў «Высновах Рады [ЭЗ] аб Беларусі» 15 лютага 2016 (п.2) прызнае, што і на момант рашэньня аб зьняцьці санкцыяў правы чалавека ў Беларусі застаюцца прадметам занепакаеньня;

II. Палітычныя рэпрэсіі, рэакцыяй на якія было ўведзеньне санкцыяў, не былі ў Беларусі юрыдычна скончаныя, у прыватнасьці пацярпелыя не былі рэгабілітаваныя, правы ахвяраў палітычных рэпрэсіяў на ўдзел у палітычным жыцьці застаюцца парушаныя, умовы для свабодных і справядлівых выбараў ня створаныя, працягваюцца акты брутальнасьці сілавых структур супраць актывістаў апазыцы і прадстаўнікоў прэсы, палітычна-матываваны судовы перасьлед удзельнікаў мірных акцыяў пратэсту:

II-1. Рада БНР зьвяртае ўвагу ў прыватнасьці на справу кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах РБ 2010 г. сп. Алеся Міхалевіча, якому было адмоўлена ў закрыцьці крымінальнае справы ўжо пасьля рашэньня Рады ЭЗ (CFSP) №2015/1957 ад 29 кастрычніка 2015 г., і які быў пакінуты ў статусе абвінавачанага і пасьля рашэньня Рады ЭЗ аб скасаваньні санкцыяў (CPRF) №2016/280 ад 25 лютага 2016 г.;

II-2. Рада БНР зьвяртае ўвагу на вынясеньне ўладамі РБ мноства палітычна матываваных рэпрэсіўных прысудаў ужо пасьля прыпыненьня і скасаваньня санкцыяў. Назіраецца зьмена акцэнта з арыштаў на штрафы ў памерах, што часта шматкроць перавышаюць сярэдні месячны заробак у Беларусі. Шляхам такіх штрафаў ахвары

матэрыяльна паралізуюцца, ствараюцца падставы для канфіскацыі і арышта. Варты адзначэньня факт вынясеньня такіх прысудаў судзьдзямі, зь якіх Рада ЭЗ зьняла санкцыі шляхам названых вышэй рашэньняў. Рада БНР зьвяртае ў гэтай сувязі ўвагу на справы, сярод іншых, кандыдатаў на прэзыдэнцкіх выбарах 2010 г. сп.сп. Ўладзіміра Някляева і Мікалая Статкевіча, старшыні Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі Анатоля Лябедзькі, актывістаў «Эўрапейскай Беларусі» Леаніда Кулакова і Максіма Вінярскага, лідэра руху салідарнасьці «Разам» Вячаслава Сіўчыка, аднаго зь лідараў беларускіх прадпрымальнікаў Алеся Макаева, актывіста абароны правоў чалавека Мікалая Казлова;

III. Названыя вышэй рашэньні Рады ЭЗ аб зьняцьці санкцыяў не суправаджаліся ані адпаведным узмацненьнем падтрымкі з боку ЭЗ для беларускіх дэмакратычных сілаў, ані захадамі дзеля эўрапейскай інтэграванасьці для грамадзян Рэспублікі Беларусь;

**Рада БНР:**

1. **Зазначае**, што пры акрэсьленых вышэй абставінах скасаваньне санкцыяў адносна асобаў і ўстановаў, адказных за цяжкія парушэньні правоў грамадзян Беларусі, падрывае эфэктыўнасьць усіх ужытых дагэтуль захадаў ЭЗ па супрацьдзеяньні рэпрэсіям у Беларусі, а таксама дыскрэдытуе патэнцыял дзейснасьці такіх захадаў у будучыні, як з пункту гледжаньня сытуацыі ў Беларусі, гэтак і ў рэгіянальным і шырэйшым міжнародным вымярэньні;

2. **Зазначае**, што спасылка ў «Высновах Рады [ЭЗ] аб Беларусі» ад 15 лютага 2016, у кантэксьце рашэньня аб скасаваньні санкцыяў, на «канструктыўную ролю ў рэгіёне», якую нібыта граюць улады Аляксандра Лукашэнкі, паказвае на магчымасьць, што рашэньне Рады ЭЗ аб скасаваньні было прынята без істотнай сувязі з тымі падставамі і мэтамі, дзеля якіх санкцыі былі ўведзеныя. Рада БНР **заяўляе** аб непрыймальнасьці палітыкі вырашэньня рэгіянальных задачаў трэціх бакоў за кошт інтарэсаў аднаўленьня дэмакратыі, законнасьці, свабоды і правоў беларусаў. Дадаткова Рада БНР **заяўляе**, што рэжым, дзяржаўная палітыка якога ёсьць закладнікам неабмежаванай волі і інтарэсаў адной асобы, ня можа быць сапраўдны канструктыўным фактарам рэгіянальнай стабільнасьці;

3. **Заклікае** Эўрапейскі Парлямэнт разгледзіць зьмест і абставіны рашэньняў эўрапейскіх інстытуцыяў у адносінах з рэжымам Лукашэнкі ў Беларусі, з увагі на небясьпеку адыходу ў дзеяньнях Рады ЭЗ ад

падставовых каштоўнясьцяў, закладзеных у падмурку Эўрапейскага Зьвязу, дзеля тымчасовых інтарэсаў і кароткатэрміновых задачаў;

4. **Заклікае** Раду Эўрапейскага Зьвязу і іншыя інстытуцыі Эўрапейскага Зьвязу кардынальна ўзмацніць і пашырыць падтрымку тым грамадзкім і палітычным сілам у Беларусі і ў замежжы, якія імкнуцца да аднаўленьня ў Беларусі дэмакратыі. Рада БНР дадаткова **засьцерагае** ад спрычыненьня, у выніку рашэньняў Рады ЭЗ аб скасаваньні санкцыяў, шкоды адносным палітычным пазыцыям пра-дэмакратычных, дэмакратычна-незалежніцкіх і пра-эўрапейскіх сілаў у Беларусі, і **заклікае** да захадаў з боку Эўрапейскага Зьвязу дзеля кампэнсаваньня такой палітычнай шкоды;

5. **Заклікае** Раду Эўрапейскага Зьвязу настойваць у рамках яе адносінаў зь дзяржаўнымі ўладамі ў Беларусі на забесьпячэньні абавязковага прадстаўніцтва для голасу тых незалежных беларускіх палітычных і грамадзкіх сілаў, якія дамагаюцца аднаўленьня дэмакратыі, забесьпячэньня правоў чалавека і вяршэнства закона ў Беларусі;

6. **Заклікае** Раду Эўрапейскага Зьвязу да комплексных аднабаковых захадаў дзеля збліжэньня з грамадзтвам Беларусі, не зважаючы на інтарэсы і без умовы супрацоўніцтва з боку рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, у тым ліку да лібэралізацыі візавага рэжыма для грамадзянаў Беларусі, за выключэньнем асобаў, адносна якіх была ўсталяваная датычнасьць да катэгорыяў парушэньняў, зафіксаваных у адпаведных рашэньнях аб санкцыях, або такая датычнасьць будзе ўсталяваная ў прышласьці;

7. **Даручае** Прэзыдыюму Рады БНР ажыцьцяўляць захады спрыяньня ў разе, калі зацікаўленыя бакі пададуць адпаведныя рашэньні Рады ЭЗ на разгляд Эўрапейскага Суду Справядлівасьці, з увагі на фармаваньне істотнай доказнай базы таго, што Рада ЭЗ скасавала санкцыі насуперак нязьменнасьці фактаў і абставінаў, усталяваных Радаю ЭЗ у якасьці законных падставаў для ўвядзеньня санкцыяў ды шматразовага іх падаўжэньня і карэкцыі;

8. **Пацьвярджае**, што бачыць будучыню для належнага забесьпячэньня беларускіх нацыянальных інтарэсаў у кантэксьце далучэньня Беларусі да Эўра-Атлянычнай супольнасьці дэмакратычных дзяржаваў;

9. **Даручае** Прэзыдыюму Рады БНР накіраваць гэтую рэзалюцыю да ўвагі беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў у Беларусі і ў замежжы, а таксама да ўвагі Рады Эўрапейскага Зьвязу, Эўрапейскай Камісіі, Эўрапейскага Парлямэнта, Парляманцкай Асамблеі Эўранэст, Арганізацыі

бясьпекі і супрацы ў Эўропе, Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы, урадам і заканадаўцам дзяржаваў.



RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

19 March 2016

**Resolution**
**of the 29th regular Session**
**of the Rada of the Belarusian Democratic Republic**

**On the Policy of the European Union toward the Republic of Belarus**

The Rada of the Belarusian Democratic Republic, having considered at its 29th regular session in New York the status of the European Union's policy toward Belarus, calls for resistance to the tendency for that policy to diverge from both the fundamental values of the European Union and Belarusian national interests pertaining to securing an independent and democratic future for Belarus, and has adopted the following Resolution:

- **Whereas** the Rada of the Belarusian Democratic Republic (hereinafter *the BNR Rada*), as well as political, civic and human rights organisations in Belarus and internationally have issued statements calling for international measures against the political repressions and violations of political and human rights perpetrated in Belarus since 1995 - with particular reference to the Statement by the BNR Rada of 28 December 2010 and the Statement by the Executive Council of the BNR Rada of 18 October 2013,

- **Recalling** the Concluding Memorandum of the Consultative Meeting of Leaders of Belarusian Political and Civic Organisations and the President of the Rada of the Belarusian Democratic Republic in Exile "On Measures To Safeguard The Independence Of Belarus" of 3 November 2012, in particular para 4: "To strengthen co-ordinated pressure from the political community and civil society in Belarus and from outside in order to achieve a reduction of fear within the society of Belarus: first and foremost to secure the release and rehabilitation of political prisoners, an end to political repressions, dismantling

of the machinery of repression, freedom for the mass media, and finally the holding of free elections”,

- **Recalling** the statements of reasons provided within the decisions of the Council of the European Union introducing and extending restrictive measures against individuals and legal entities, based on their links to organising political repression, inhumane treatment of the victims, election rigging, supporting the repressive regime and other serious violations of civic, political and human rights in the Republic of Belarus - with special reference to the following: Council Common Position 2004/848/CFSP of 13 December 2004, Council Common Position 2006/276/CFSP of 10 April 2006, Council Decision 2010/639/CFSP of 25 October 2010, Council Decision 2011/69/CFSP of 31 January 2011, Council Decision 2012/642/CFSP of 15 October 2012,

- **Having** considered the decision by the Council of the EU to suspend sanctions against the above legal entities and individuals in Belarus passed by way of the Council Decision (CFSP) 2015/1957 of 29 October 2015, and having given further consideration to the Council Conclusions on Belarus of 15 February 2016 as well as the Council Decision (CFSP) 2016/280 of 25 February 2016 - by which the said sanctions were discontinued, with the exception of four persons,

- **Comparing** the Decisions the Council (CFSP) 2015/1957 of 29 October 2015 and (CFSP) 2016/280 of 25 February 2016, as well as the contents of the Council Conclusions on Belarus of 15 February – with conclusions that were reached by representatives of international organisations at the same time, in particular:

-- OSCE/ODIHR Election Observation Mission Final Report for the 11 October 2015 presidential election in Belarus of 28 January 2016, pointing out in its conclusions that the election did not meet the standards for a democratic poll, as well as that there was a lack of political will on the part of the government of the Republic of Belarus to engage in an appropriate reform process, and that “[s]ignificant problems […] undermined the integrity of the election”. At the same time ban on political prisoners who had been released standing as candidates was not lifted, and they remained at risk of renewed repression;

-- Statement by the OSCE Representative on Freedom of the Media of 27 January 2016 condemning police violence against a journalist in Belarus and reiterating the call to the authorities to stop persecuting members of the media;

-- Statement by the United Nations Special Rapporteur on human rights in Belarus of 9 February 2016 highlighting that "[d]uring the last four months, no changes have been initiated in Belarus to alter the oppressive laws and practices, while numerous cases of new violations of basic rights have emerged", and: "The authorities have not ceased the systematic harassment of those who attempted to practice their individual, civil, political, and other rights, despite the partial suspension of EU and US sanctions, decided in anticipation of further advancement of human rights";

**Having regard to that:**

I. As has been evidenced by, among others, the conclusions of the international organisations: the EU Council's decision to suspend and later to discontinue sanctions was passed despite the fact that the circumstances, facts and policies of the government of the Republic of Belarus, previously identified by the EU Council in 2006-2015 as legal grounds for applying and extending sanctions, remained essentially unchanged as a whole. The EU Council itself did not claim that those grounds had disappeared, but admitted in its Conclusions on Belarus of 15 February 2016 (para 2) that human rights in Belarus remained an issue of concern even when passing the decision to lift those sanctions;

II. Political repression, in response to which sanctions were originally applied, has not been legally terminated in Belarus. In particular, its victims have not been legally rehabilitated, and their right to participate in political life continues to be violated. Conditions for free and fair elections have not been created, the security and law-enforcement agencies continue to commit acts of brutality against opposition activists and representatives of the media. The politically motivated judicial persecution of participants of peaceful protests still continues:

II-1. The BNR Rada notes in particular the case of Aleś Michalevič, a candidate in the 2010 presidential election in Belarus. The authorities refused to terminate criminal proceedings against him even after the decision by the EU Council Decision (CFSP) 2015/1957 of 29 October 2015. His status of an accused was not lifted even after the Council Decision (CFSP) 2016/280 of 25 February 2016;

II-2. The BNR Rada notes that the [judicial] authorities in Belarus have passed a number of repressive, politically motivated court sentences even after sanctions were suspended and [ultimately] abolished. A shift of emphasis can be observed from custodial sentences to fines – in amounts often exceeding the average monthly wage in Belarus many times over. Such fines serve financially to paralyse the victims, and to create grounds

for confiscations and arrests. A noteworthy fact is that such sentences have been passed by those judges from whom sanctions were lifted by the above-mentioned EU Council decisions. The BNR Rada notes in this respect the cases, among others, of the 2010 presidential candidates Uładzimir Niaklajeŭ and Mikałaj Statkievič, as well as the chairman of the United Civic Party Anatol Labiedzka, *European Belarus* activists Leanid Kułakoŭ and Maksim Viniarski, the leader of the *Together* solidarity movement Viačasłaŭ Siŭčyk, one of the Belarusian entrepreneur community leaders Aleś Makajeŭ, and the human rights activist Mikałaj Kazłoŭ;

III. The referenced EU Council decisions to lift sanctions were accompanied by neither a matching increase of support from the EU to the pro-democracy forces of Belarus, nor measures to promote European integration for the citizens of Belarus;

**The BNR Rada:**

1. **Notes** that - under the circumstances outlined above - lifting sanctions against the individuals and organisations responsible for the serious rights violations of Belarusian citizens undermines the effectiveness of all the measures that have been hitherto employed by the EU against repression in Belarus. It also renders such measures potentially ineffective in the future – from the viewpoint of the Belarus situation as well as in regional and broader international dimensions;

2. **Points out** that the reference in the Council Conclusions on Belarus of 15 February 2016 - in the context of lifting sanctions - to some “constructive role in the region” that Alaksandar Łukašenka’s [Alexander Lukashenka] government was allegedly playing points to the possibility that the EU Council’s decision to abolish was made without any substantial connection with those grounds and objectives for which the sanctions had been applied. The BNR Rada **states** that a policy whereby the regional objectives of third parties would be secured by sacrificing the interests of restoring democracy, rule of law, freedom and rights of Belarusians is unacceptable. In addition the BNR Rada **states** that a regime the state policy of which is held hostage to a single person’s unchecked will and interests cannot be a genuinely constructive factor for regional stability;

3. **Urges** the European Parliament to review the contents and circumstances of the decisions made by the European institutions with regard to the Łukašenka regime in Belarus, considering the risk that the actions of the EU Council could be diverging - in pursuit of interim interests and short-term objectives - from the fundamental values set in the foundations of the European Union;

4. **Urges** the Council of the European Union and other institutions of the European Union to increase and expand radically their support to those civic and political forces inside and outside Belarus which seek to restore democracy in the country. The BNR Rada furthermore **warns** regarding damage - as a result of the EU Council's decisions to lift sanctions – to the relative political positions of the pro-democracy, democratic pro-independence and pro-European forces in Belarus, and **calls** for compensatory measures by the European Union to remedy such political damage;

5. **Urges** the Council of the European Union to insist, in the framework of its relations with the government of Belarus, on securing mandatory representation for the voice of those independent Belarusian political and civic forces that seek to restore democracy and secure human rights and the rule of law in Belarus;

6. **Urges** the Council of the European Union to use comprehensive unilateral measures for rapprochement with the Belarusian public - disregarding the interests of the regime of Alaksandar Łukašenka and in no way dependent on its co-operation. This should include visa liberalisation for Belarusian citizens, excluding any persons whose involvement in the types of violations as stipulated in the appropriate sanction rulings has been established or would be established in the future;

7. **Instructs** the Executive Council of the BNR Rada to provide assistance in event that interested parties submit the relevant decisions of the EU Council to review by the European Court of Justice. In this respect the BNR Rada **notes** that a body of evidence has been forming that the EU Council has lifted sanctions in the face of a lack of change in those facts and circumstances that were set by the EU Council as the legal grounds for applying those sanctions and for extending and fine-tuning them in many instances;

8. **Confirms** its vision that the future for securing Belarusian national interests in an appropriate manner lies in the context of Belarus's joining the European-Atlantic community of democratic states;

9. **Instructs** the Executive Council of the BNR Rada to submit this Resolution for the attention of Belarusian political and civic organisations inside and outside Belarus, as well as for the attention of the Council of the European Union, the European Commission, the European Parliament, the Euronest Parliamentary Assembly, the Organisation for Security and Co-Operation in Europe, the Parliamentary Assembly of the Council of Europe, and national governments and legislative bodies.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

---

19 сакавіка 2016 г.

**Заява**
**XXIX чарговай сэсіі**
**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

**З нагоды 30-годзьдзя аварыі на Чарнобыльскай АЭС**

Трыццаць гадоў таму адбылася самая страшная тэхнагенная і экалягічная катастрофа ў гісторыі Беларусі. У выніку выбуху на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі каля ўкраінска-беларускай мяжы ў атмасфэру былі выкінутыя вялікія аб'ёмы радыёактыўных рэчываў, да 70% зь якіх апалі на тэрыторыі Беларусі.

Рада БНР канстатуе, што Беларусь больш за ўсе краіны пацярпела ад Чарнобылю і што наступствы гэтай катастрофы будуць адчувацца ў Беларусі многія стагодзьдзі. Траціна тэрыторыі Беларусі была забруджаная радыяцыяй, вялікія абшары зрабіліся непрыдатнымі да жыцьця чалавека. Рэзка вырасьлі паказьнікі захворваньня беларусаў на хваробы, выкліканыя наступствамі Чарнобыльскай аварыі – у першую чаргу, анкалягічныя.

Рада БНР заяўляе, што прамую адказнасьць за Чарнобыльскую катастрофу і яе наступствы для Беларусі нясе таталітарны камуністычны рэжым – як цэнтральныя агульнасаюзныя ўлады, так і акупацыйныя “рэспубліканскія” ўлады БССР:

- Сама Чарнобыльская катастрофа сталася вынікам неэфэктыўнага савецкага гаспадараньня, неэфэктыўных савецкіх тэхналёгій і хібаў пры выкананьні праектных і будаўнічых працаў;

- Пасьля аварыі камуністычныя ўлады імкнуліся замоўчваць ці заніжаць маштабы таго, што адбылося, ажно да таго моманту, калі радыяцыйныя выкіды з Чарнобылю дайшлі да краінаў Заходняй Эўропы;

- Камуністычныя кіраўнікі праявілі злачынную бязьдзейнасьць у найбольш крытычныя першыя дні пасьля аварыі, праводзячы ў звычайным рэжыме першамайскія масавыя мерапрыемствы замест таго, каб папярэдзіць пра неабходныя меры бясьпекі;

- Паводле наяўнай інфармацыі, савецкая авіяцыя наўмысьне асаджала радыёактыўныя хмары на тэрыторыі Магілёўшчыны і Гомельшчыны, каб яны не пайшлі далей у бок Расеі і Масквы.

Рада БНР зьвяртае ўвагу, што Беларусь не атрымала ў сувязі з Чарнобыльскай катастрофай ніякіх кампэнсацый ані ад цэнтральных савецкіх уладаў, ані ад юрыдычнага пераемніка СССР – Расейскай Фэдэрацыі.

Рада БНР канстатуе, што рэжым А. Лукашэнкі яшчэ зь 90-х гадоў праводзіць палітыку па рэкультывацыі чарнобыльскіх тэрыторый і адзначыўся рэпрэсіямі супраць навукоўцаў, якія папярэджваюць пра небясьпеку гэткае палітыкі. Забруджаныя тэрыторыі выкарыстоўваюцца для сельскагаспадарчай вытворчасьці. Удзельнікі ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС пазбаўленыя ільготаў. Акрамя гэтага, рэжым А. Лукашэнкі без належнага грамадзкага абмеркаваньня і ня маючы дэмакратычнага мандату ад народу Беларусі будуе атамную электрастанцыю ў Астраўцы, на мяжы зь Літоўскай Рэспублікай, выкарыстоўваючы расейскіх кантрактараў і савецкія тэхналёгіі.

Рада БНР заклікае да адказнай палітыкі ў энэргетыцы, сельскай гаспадарцы і разьвіцьці тэрыторый, каб не дапусьціць рызыкі паўтарэньня аналягічнай аварыі і каб найбольш эфэктыўна пераадольваць наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Рада БНР патрабуе прыпыненьня будаўніцтва Астравецкай атамнай электрастанцыі да моманту паўнавартаснага, адкрытага і справядлівага абмеркаваньня гэтага пытаньня ў беларускім грамадзтве.



RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

---

19 March 2016

**Statement**

**by the XXIX Session**
**of the Rada of the Belarusian Democratic Republic**

**On the 30th anniversary of the Chernobyl nuclear accident**

Thirty years ago Belarus faced the most severe industrial and environmental disaster in its history. As a result of an explosion at the Chernobyl nuclear power plant near the Ukrainian-Belarusian border, large amount of radioactive material was thrown into the atmosphere, up to 70% of which fell onto the territory of Belarus.

The BNR Rada states that Belarus has suffered more than any other country from the Chernobyl catastrophe, and that the accident's effects will be felt in Belarus for many centuries. A third of Belarus's territory has been contaminated by the radioactive fallout; large areas became unsuitable for human habitation. Belarus has seen a sharp rise in deceases caused by the Chernobyl disaster – above all, cancer.

The BNR Rada declares that the totalitarian Communist regime – both the central government in Moscow and the local Soviet occupation authorities in the Belarusian Soviet Socialist Republic – bears the full responsibility for the Chernobyl catastrophe and its effects on Belarus:

- The Chernobyl accident itself was a result of the flawed Soviet economic management, faulty Soviet technologies, and errors made at the design and construction stages of the Chernobyl nuclear power plant;

- Following the accident and up until the point when the radioactive fallout reached Western Europe the Communist authorities tried to conceal or understate the scale of the catastrophe;

- The Communist high officials' behaviour during the first, most critical, days after the accident amounted to criminal inaction, as they were holding mass outdoor public events instead of warning the population to take necessary protective precautions;

- According to the information available today the Soviet air force deliberately condensed clouds containing radioactive particles over the areas of eastern and south-eastern Belarus, in order to prevent the radioactivity from reaching Russia and Moscow.

The BNR Rada draws attention to the fact that Belarus has not received any compensation related to the Chernobyl catastrophe, neither from the central Soviet government at the time, nor from the Russian Federation as the USSR's legal successor.

The BNR Rada notes that since the 1990s the regime of Alexander Lukashenka has been implementing a policy of re-cultivation of the Chernobyl-contaminated areas, as well as has repressed those scientists who warned against the risks of this policy. Contaminated areas have been in use for agricultural production. Benefits have been taken away from persons who were involved in fighting the Chernobyl power plant accident. Moreover, the regime of Alexander Lukashenka is constructing a nuclear power plant in Astraviec, close to the border with the Lithuanian Republic, without having had any proper public discussion of this project, while lacking a democratic mandate from the people of Belarus, and using Russian contractors and Soviet-developed technologies.

The BNR Rada calls for responsible policies in the energy sector, in agriculture and in area development, in order to avoid a new Chernobyl-type accident, and to be overcoming the aftermath of the 1986 catastrophe in an effective manner.

The BNR Rada demands a freeze of the construction of the nuclear power plant in Astraviec until this issue has been a matter of a full-scale, open and fair debate in the society of Belarus.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

19 сакавіка 2016 г.

**Заява**

**XXIX чарговай сэсіі**
**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

**Аб уцягваньні Беларусі ў зону вайсковых інтарэсаў Расеі**

Пачынаючы ад 1993 году, калі праімпэрская большасьць Вярхоўнага Савету прагаласавала за далучэньне Беларусі да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы СНД, краіна пасьлядоўна ўцягваецца ў зону вайсковых інтарэсаў Расеі.

У выніку дамоўленасьцяў, падпісаных Лукашэнкам з Крамлём, Беларусь пераўтварылася ў заходні фарпост Масквы. У такой сытуацыі вялікія сумневы выклікае здольнасьць Узброеных сілаў Беларусі абараніць краіну ў выпадку агрэсіі з боку Масквы, якая патэнцыйна можа ажыцьцявіць яе з мэтай гібрыднай акупацыі па мадэлі Данбасу, з мэтай анэксіі часткі тэрыторыі, як было зроблена ў Крыме, альбо з мэтай поўнай ліквідацыі незалежнасьці Беларусі.

Кіраўніцтва міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, генэралітэт, камандаваньне вайсковых злучэньняў скончылі расейскія вайсковыя акадэміі. У войску, якое афіцыйна лічыцца беларускім, насаджаюцца і пануюць прарасейскія настроі, скажаецца і ганьбіцца сапраўдная славутая гісторыя беларускай нацыі, практычна не ўжываецца і часта варожа ўспрымаецца беларуская мова. Шматлікія вышэйшыя афіцэры публічна падтрымліваюць расейскую агрэсію ва Ўкраіне і анэксію Крыму.

Адначасна, у шмат якіх рэгіёнах краіны пад патранажам асобных сьвятароў РПЦ Маскоўскага патрыярхату, з дазволу мясцовых уладаў, утвараюцца моладзевыя вайсковыя фармаваньні з выразнай арыентацыяй на "рускі мір", і, фактычна, на ліквідацыю незалежнасьці беларускай дзяржавы. Іх нават гасьцінна прымаюць, ладзяць ім экскурсіі ў некаторых вайсковых частках.

На тэрыторыі Беларусі ўжо знаходзяцца расейскія вайсковыя аб’екты (каля Вілейкі і Ганцавічаў). У апрошні час Масква актыўна дамагаецца стварэньня авіяцыйнай базы. Гэта асабліва небясьпечна з улікам узмацненьня агрэсіўных намаганьняў Крамля і стварэньня Масквой зонаў напружанасьці ў розных рэгіёнах эўразійскага кантынэнту.

Беларусь у такой сытуацыі апынаеца разьменнай манэтай у гульні іншых дзяржаваў, а яе народ – ахвярай, як ужо неаднойчы здаралася ў нашай гісторыі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выступае супраць уцягваньня Беларусі ў ваенныя авантуры Расеі і патрабуе як хутчэйшага вываду расейскіх ваенных аб’ектаў з тэрыторыі краіны і непапушчэньня разьмяшчэньня новых ваенных базаў. Войска Беларусі павінна быць не прыдаткам расейскай ваеннай машыны, а абаронцам незалежнасьці краіны.

У выніку агрэсіі асноўны цяжар абароны Айчыны кладзецца на здольнасьць да супраціву самога беларускага народа, які гістарычна даказаў сваю сілу і сваю нязломнасьць.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

19 сакавіка 2016 г.

**Рэзалюцыя**

**XXIX чарговай сэсіі**
**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

**Аб узнагародах Беларускай Народнай Рэспублікі**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі,

- Зважаючы на дэкрэт Прэзыдэнта Рады БНР ад 1 верасьня 1949 г. і Статуты ўзнагародаў БНР, якія ўвайшлі ў сілу 5 жніўня 1951 г. і апублікаваныя ў газэце "Бацькаўшчына" № 7-8 1952 г.;

- Беручы пад увагу зьмены гістарычных абставінаў, у якіх патрабуюць адзначэньня заслугі перад беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі;

- З увагі на факт, што ўлады, якія пануюць сёньня ў Беларусі, у палітыцы адзначэньня заслугаў кіруюцца пераважна палітычнымі інтарэсамі рэжыму А. Лукашэнкі, без выключэньняў дыскрымінуючы палітычных апанэнтаў А. Лукашэнкі, і ігнаруюць такія заслугі, як у справе супраціву савецкай акупацыі Беларусі, змаганьня за незалежнасьць і яе ўмацаваньне, барацьбы за аднаўленьне дэмакратыі і канстытуцыйнай законнасьці, абароны правоў чалавека і палітычных свабодаў, адраджэньня і разьвіцьця беларускай несавецкай культуры і захаваньня гістарычнай спадчыны ў многіх аспэктах, валянтэрскай і дабрачыннай дзейнасьці;

- Беручы пад ўвагу, што ўлады ў Беларусі ў рамках акрэсьленай вышэй палітыкі скасавалі ордэн Кастуся Каліноўскага ў 2004 г., якім маглі адзначацца многія з пералічаных вышэй карэгорыяў заслугаў,

- Беручы пад увагу, што многія рашэньні А Лукашэнкі аб наданьні ўзнагародаў адыёзным прадстаўнікам паноўнага рэжыму, а таксама шэрагу замежных фігураў, азначаюць дыскрэдытацыю адпаведных узнагародаў у вачох беларускага грамадзтва патрыятычнай, дэмакратычнай і нацыянальна-дэмакратычнай арыентацыі ў Беларусі і ў замежжы:

**Пастанаўляе:**

1. Пацьвердзіць дзейснасьць названых вышэй актаў 1949 і 1952 гг., а таксама ўсіх нададзеных на іх падставе ўзнагародаў;

2. Зрабіць зьмены ў Статуты ўзнагародаў БНР, забясьпечыўшы магчымасьць адзначэньня заслугаў беларусаў і замежнікаў перад беларускімі нацыянальнымі інтарэсамі, а таксама гуманітарныя заслугі, у гістарычных абставінах нашага часу;

3. Прэзыдыюм сфармуе працоўную групу па падрыхтоўцы праекту адпаведных зьменаў і дапаўненьняў і прыйме адпаведныя бюджэтныя рашэньні;

4. На рэкамэндацыі Прэзыдыюму, Старшыня Рады БНР сваім дэкрэтам ўвядзе папраўкі ў названыя вышэй акты 1949 і 1952 гг. ў сілу, сфармуе органы для выкананьня.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

КАНЦЫЛЯРЫЯ СТАРШЫНІ

25 жніўня 2016 г.

**Сьвяточны зварот Старшыні Рады БНР да 25-годзьдзя аднаўленьня незалежнасьці Беларусі**

Паважаныя суродзічы, дарагія беларусы

Сардэчна віншую вас з дваццаць пятаю гадавінай аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі. Роўна чвэрць стагодзьдзя таму Беларусь пасьля больш як сямідзесяці гадоў панаваньня савецкага акупацыйнага рэжыму зноў адрадзілася як сувэрэнная дзяржава.

Дзень 25 жніўня 1991 году, калі Вярхоўны Савет БССР абвесьціў пра незалежнасьць Беларусі, стаўся днём вялікае беларускае гістарычнае перамогі.

Беларускі народ актыўна змагаўся за сваю незалежнасьць цягам многіх пакаленьняў: узгадайма паўстаньні XIX стагодзьдзя, Усебеларускі Зьезд 1917 году, абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году, доўгія гады чужаземнай акупацыі, падпольнай і партызанскай збройнай барацьбы. У 1991 годзе беларускае грамадзтва, авангардам якога выступілі Беларускі Народны Фронт і яго фракцыя ў Вярхоўным Савеце, рэалізавала мару беларусаў пра ўласную дзяржаўнасьць.

На жаль, перамога тая была не канчатковаю. Праз некалькі гадоў да ўлады ў Беларусі прыйшла сіла, якая паставіла Беларусь у вялікую залежнасьць ад Расеі, спрабуючы маніпуляваць тамтэйшымі імпэрскімі комплексамі дзеля сваёй карысьлівай выгоды і робячы сувэрэнітэт нашае

краіны прадметам торгу. У 1991 годзе Беларусь мела выключныя геапалітычныя ды эканамічныя магчымасьці, каб, дзякуючы працавітасьці беларускага народа, неўзабаве зрабіцца дэмакратычнай і заможнай эўрапейскай краінай. Але імпэрскія памкненьні Расеі, якія ня маюць нічога супольнага з прынцыпамі свабоды, дэмакратыі і правоў чалавека, а таксама палітыка дыктатарскага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі перашкодзілі гэтаму.

Незалежнасьць Беларусі па сёньняшні дзень застаецца пад істотнай пагрозай, якая сыходзіць ад аўтарытарнай і ўсё больш агрэсіўнай Расейскай Фэдэрацыі і яе цяперашніх шавіністычных уладаў.

Тым ня менш, у беларусаў сёньня ёсьць тое, пра што некаторыя іншыя народы толькі мараць і чаго ня могуць дамагчыся нават коштам вялізных чалавечых ахвяраў – уласная незалежная дзяржава. Так, змаганьне за сапраўдную незалежнасьць Беларусі працягваецца – але яно, безумоўна, скончыцца перамогай. Пацьверджаньне гэтаму – прыклад тых дзясяткаў тысяч беларусаў, якія ў жніўні 91-га выйшлі на плошчы – і перамаглі.

Дык – зь верай у перамогу!

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

КАНЦЫЛЯРЫЯ СТАРШЫНІ

---

4 верасьня 2016 г., Лорд Элгін Гатэль, Атава

**Зварот Старшыні Рады БНР**

**На 32-ой Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі**

Дастойны Ўладыка! Паважаныя Госьці, Дарагія Сябры!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, вітаю Вас на гэтай першай Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Канадыйскай сталіцы. Тым, хто яшчэ ня быў у гэтым цудоўным горадзе, спадзяюся, што ён спадабаецца, і што ў панядзелак разьедземся з новымі сіламі і новым энтузіязмам прадаўжаць працу на карысьць нашай Бацькаўшчыны.

Хаця гэта першая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая адбываецца ў Атаве, гэта далёка ня першая беларуская імпрэза ў сталіцы Канады. Калі ня самі, дык разам з іншымі этнічнымі групамі мы стараемся быць усюды, дзе важна паказаць, што Беларусь жыве і хоча жыць!

Яшчэ ў 1975-м годзе на Атаўскім Унівэрсытэце адбылася першая навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная беларускай прысутнасьці ў Паўночнай Амерыцы. Пра яе гаварыла ўчора прафэсар Зіна Гімпелевіч.

Атаўскі Аддзел ЗБК між 1979-м і 1989-м годам браў удзел у дзесяці Фэстывалях Бацькаўшчынаў “Гомляндс”. Рабілі выставы беларускага народнага мастацтва. Прысутнічалі на дэманстрацыях з нашымі Цэнтральна- і Ўсходне-Эўрапейскімі суседзямі, бралі ўдзел на ўзроўні управы ў працы Канадыйскай Этнакультурнай Рады. Мэтай нашай заўсёды было здабываць сяброў для Беларусі і падтрымку ў змаганьні за

незалежную Беларусь. Калі Бог мне дасьць яшчэ пару год жыцьця, маю намер напісаць пра ўсё гэта больш абшырна.

Таксама спадзяюся яшчэ напісаць пра Канадзкі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі, які мы стварылі ў Атаве ў 1989-м годзе. Гэта нам дазволіла выслаць або спрычыніцца да высылкі на мільёны даляраў лекаў і іншай дапамогі ў Беларусь і прывезьці тысячы дзетак на адпачынак у Канаду. Толькі ў 1997-м годзе, калі я пакінула старшынства гэтае арганізацыі, мы прывезьлі з Беларусі 650 дзетак на аздараўленьне.

Сёньня мы сабраліся ў Атаве, каб падумаць разам пра месца культуры ў нашым жыцьці. Тэма выдатная, бо культура ёсьць сродкам, якім карыстаюцца ўсе народы каб здабыць сабе пачэснае месца ў сям'і народаў сьвету. Рада БНР прыняла пастанову зрабіць актыўнае інфармаваньне сьвету пра беларускую культуру часткай свае палітычнае дзейнасьці.

Я спадзяюся, што гэтая Сустрэча запачаткуе новую эру ў жыцьці беларускае дыяспары ў Паўночнай Амэрыцы. Бо мы маем у нашых руках вялізарныя магчымасьці прыцягнуць увагу сьвету на наш уклад у культурную скарбніцу чалавецтва. Гэта тым болей важна, што на бацькаўшчыне беларуская культура ня толькі не зьяўляецца прыярытэтам дзяржавы, але маргіналізуецца на карысьць расейскай. У сваім інтэрв'ю, апублікаваным у пятніцу на "Свабодзе", Вольга Іпатава выказала шкадаваньне, што нацыянальная гісторыя ня сталася ветразём для нацыі. "А без напоўненага ветразя" – кажа яна – "ніводная нацыя ня зможа плыць у шырокі сьвет". Гэта можна сказаць і пра мову і пра ўсе іншыя галіны культуры. Дзеля таго, што чалавек за мяжой лепш усьведамляе сабе важнасьць прыналежнасьці да роднай культуры, дыяспара тут таксама можа адыйграць не абыякую ролю.

Заклікаю тых, хто яшчэ не далучыўся да нашае грамады – да ЗБК і БАЗы – і да нашых супольных намаганьняў: далучайцеся! Так, як і іншыя народы сьвету, разам будзем мацнейшымі і хутчэй здабудзем для нашага народу павагу ў сьвеце.

У канцы, хачу нагадаць пра нашае вялікае нацыянальнае сьвята – Дзень юрыдычнага аднаўленьня – 25 гадоў таму – незалежнасьці Беларусі. З гэтае нагоды віншую ўсіх прысутных ад імя Рады БНР.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

---

13 верасьня 2016 г.

**Заява**

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з нагоды выбараў у Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, якія прайшлі 11 верасьня 2016 г.**

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі,

Зважаючы на шматлікія парушэньні дэмакратычных стандартаў, такія, як:

- Факты зьняцьця з выбараў і ціску на кандыдатаў ад апазыцыі,

- Адсутнасьць умоваў для вядзеньня кандыдатамі ад апазыцыі паўнавартаснае перадвыбарчае кампаніі,

- Фактычную непрадстаўленасьць апазыцыі ў выбарчых камісіях усіх узроўняў,

- Татальную непразрыстасьць працэдуры падліку галасоў, асабліва пададзеных у рамках датэрміновага галасаваньня,

- Факты ціску на выбарцаў, у тым ліку прымушэньне да датэрміновага галасаваньня,

- Факты ціску на назіральнікаў за галасаваньнем, у тым ліку неабгрунтаванага выдаленьня назіральнікаў з участкаў,

- Факты фальсыфікацыі працэдуры галасаваньня і іншыя,

Улічваючы невыкананьне афіцыйнымі ўладамі Рэспублікі Беларусь рэкамэндацый АБСЭ што да ўдасканаленьня выбарчага працэсу ў Беларусі,

1. Канстатуе, што выбары ў Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь не зьяўляліся сумленнымі і свабоднымі, а сфармаваная па іх выніках структура ня можа разглядацца як законна і дэмакратычна абраны парлямэнт Беларусі

2. Зьвяртае ўвагу на тое, што выбары былі праведзеныя з істотнымі парушэньнямі дзеючага законадаўства Рэспублікі Беларусь, у тым ліку Канстытуцыі, за якія прадугледжаная крымінальная адказнасьць; а таксама з парушэньнем міжнародных пагадненьняў, падпісаных Рэспублікай Беларусь

3. Заклікае міжнародную супольнасьць, у тым ліку Эўрапейскі Зьвяз і Раду Эўропы, абмежаваць узаемадзеяньне з Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь тэхнічнымі пытаньнямі, выключыўшы магчымасьць фармальнага або фактычнага афіцыйнага прызнаньня гэтае арганізацыі ў якасьці парлямэнту Рэспублікі Беларусь

4. Заклікае міжнародную супольнасьць аказаць ціск на афіцыйныя ўлады Беларусі з мэтаю дэмакратызацыі палітычнае сыстэмы Беларусі і гарантаваньня абароны зацьверджаных у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь правоў чалавека

5. Заклікае афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь да вызваленьня палітычных вязьняў, у тым ліку Эдуарда Пальчыса, Міхаіла Жамчужнага, Уладзіміра Кондруся, прывядзеньня палітычнае сыстэмы Беларусі ў адпаведнасьць зь міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі і да правядзеньня дэмакратычных і празрыстых выбараў у органы ўлады ўсіх узроўняў.



RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

---

September 13, 2016

**Statement**

**by the Rada of the Belarusian Democratic Republic**

**On the Elections to the Chamber of Representatives of the National Assembly of the Republic of Belarus on 11 September 2016**

The Rada of the Belarusian Democratic Republic,

Having considered numerous violations of democratic standards, such as the following:

– instances of disqualification of some opposition candidates, as well as the pressure exerted against others,

– lack of reasonable conditions for opposition candidates to conduct satisfactory electoral campaigns,

– effective lack of representation by the opposition in electoral commissions at all levels,

– complete lack of transparency during the vote-count, especially of votes cast in early voting,

– instances of pressure exerted on the voters, among them, forcing them to vote early ,

– instances of pressure on voting observers, including their removal from polling stations without justification,

– instances of rigging the voting procedure, such as multiple votes, and other violations,

Taking into account the failure by official authorities of the Republic of Belarus to comply with OSCE recommendations on improving of the election process in Belarus,

States that the elections to the Chamber of Representatives of the National Assembly of the Republic of Belarus were neither fair nor free, and that the resulting body cannot be regarded as a lawfully and democratically elected parliament of Belarus;

Draws attention to the fact that the elections were conducted with substantial violations of the electoral legislation of the Republic of Belarus currently in force, including its Constitution; as well as with violations of international accords signed by the Republic of Belarus;

Calls on the international community, including the European Union and the Council of Europe, to limit their contacts with the National Assembly of the Republic of Belarus to technical issues only, thus excluding a possibility that said body would be officially recognized as a parliament of the Republic of Belarus, either formally or in practice;

Calls on the international community to apply pressure on the official authorities of Belarus with a view of bringing about democratization of Belarus's political system and guaranteeing the protection of human rights that are called for in the Constitution of the Republic of Belarus;

Calls on the official authorities of the Republic of Belarus to release political prisoners, including Eduard Palčys, Michail Žamčužny, Uładzimir Kondruś to bring the political system of Belarus in line with international democratic standards, and to conduct free and transparent elections at all levels.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

23 верасьня 2016 г.

**Заява**

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Аб аднаўленьні статусу дзяржаўных сымбаляў Рэспублікі Беларусь і наданьні беларускаму сьцягу статусу аб'екта гісторыка-культурнай спадчыны**

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі падтрымлівае грамадзкую ініцыятыву аб наданьні бел-чырвона-беламу сьцягу статусу аб'екта нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасьці Рэспублікі Беларусь.

Бел-чырвона-белы сьцяг - сымбаль руху за незалежнасьць Беларусі. Сваімі каранямі ён абапіраецца на старажытныя традыцыі беларускай дзяржаўнай сымболікі. Белы і чырвоны - гэта колеры старажытнага беларускага гербу "Пагоня", які ўжо ўнесены ў сьпіс нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасьцяў Рэспублікі Беларусь, а таксама асноўныя колеры сьцягоў Вялікага Княства Літоўскага й Рэчы Паспалітае.

Пад бел-чырвона-белым сьцягам Беларусь зрабілася незалежнаю ў 1918 годзе. На працягу 20-х і 30-х гадоў бел-чырвона-белы сьцяг быў сымбалем руху за нацыянальныя правы беларусаў у міжваеннай Польшчы і ў БССР. У другой палове 20. стагодзьдзя сьцяг выкарыстоўваўся як сымбаль Беларусі ў краінах Вольнага сьвету. Гэты сьцяг шмат разоў падымаўся на Дзень незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка над афіцыйнымі ўстановамі (ратушамі Таронта, Манчэстэру і іншых гарадоў) у знак павагі да нашай краіны і да беларускага народу.

Пад бел-чырвона-белым сьцягам Беларусь адрадзіла сваю незалежнасьць і зрабілася агульнапрызнаным членам міжнароднай супольнасьці ў 1991

годзе. Менавіта гэты сьцяг быў падняты на першых амбасадах незалежнай Беларусі ў Вялікай Брытаніі, Нямеччыне, ЗША, Расеі і іншых краінах.

Бел-чырвона-белы сьцяг усё 20. стагодзьдзе быў сымбалем незалежнай беларускай дзяржаўнасьці і беларусаў незалежна ад палітычных поглядаў.

Разам з тым, Рада БНР заклікае ня толькі надаць бел-чырвона-беламу сьцягу статус гісторыка-культурнай каштоўнасьці, але і аднавіць у Рэспубліцы Беларусь ягоны статус дзяржаўнага сьцягу, зацьверджаны рашэньнем Вярхоўнага Савету Беларусі ад 19 верасьня 1991 г. Рада БНР адзначае, што рэфэрэндум, з спасылкаю на які быў скасаваны дзяржаўны статус бел-чырвона-белага сьцягу, гербу "Пагоня" і статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, быў прызначаны незаконна, а таксама арганізаваны і праведзены з істотнымі парушэньнямі, якія пазбаўляюць любыя ягоныя вынікі юрыдычнае сілы.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

---

30 кастрычніка 2016 г.

**Дэкларацыя памяці і салідарнасьці**

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў Выгнаньні**

***Кіруючыся*** духам салідарнасьці народу Беларусі з народамі Літоўскай Рэспублікі, Рэспублікі Польшчы і Ўкраіны;

***Дзеючы*** ў рэчышчы адзінства стратэгічных інтарэсаў Беларусі, Літоўскай Рэспублікі, Рэспублікі Польшчы і Ўкраіны;

***Падкрэсьліваючы*** нашую непарушную адданасьць фундамэнтальным прынцыпам міжнароднага права і сумеснай абароне нацыянальнага сувэрэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасьці і недатыкальнасьці межаў кожнай з нашых краін;

***Нагадваючы*** пра вялікую гістарычную ахвяру, прынесеную нашымі народамі ў абарону свабоды і незалежнасьці;

***Зьвяртаючы ўвагу*** на недалучэньне Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусі да Дэкларацыі памяці і салідарнасьці; на тое, што цяперашняя афіцыйная ўлада ў Беларусі адкрыта пазыцыянуе сябе ў якасьці пераемніка і прадаўжальніка палітыкі таталітарнага савецкага рэжыму і на тое, што ўсталяваньне і шматгадовае існаваньне цяперашняга аўтарытарнага нэасавецкага рэжыму ў Беларусі сталася магчымым дзякуючы падтрымцы з боку Расейскай Фэдэрацыі;

***Дбаючы*** пра абарону свабоды і дасягненьне годнага жыцьця ўсіх нашых народаў у аб'яднанай Эўропе;

**Мы, прадстаўнікі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні;**

***Далучаемся*** да прынятай прадстаўнікамі Сэйму Рэспублікі Польшчы і Вярхоўнай Рады Украіны Дэкларацыі памяці і салідарнасьці, каб аддаць даніну павагі мільёнам ахвяраў, панесеных нашымі народамі падчас Другой Сусьветнай вайны, і асудзіць вонкавых агрэсараў, якія спрабавалі зьнішчыць нашую незалежнасьць;

***Зьвяртаем*** увагу на той факт, што пакт Рыбэнтропа-Молатава ад 23 жніўня 1939 года, заключаны паміж двума таталітарнымі рэжымамі - камуністычным Савецкім Саюзам і нацыстоўскай Нямеччынай, прывёў да выбуху 1 верасьня Другой Сусьветнай вайны, выкліканай агрэсіяй Нямеччыны, да якой 17 верасьня далучыўся Савецкі Саюз. Вынікам гэтых падзей была акупацыя тэрыторыі нашых краінаў. Наступствам акупацыі сталі масавыя рэпрэсіі супраць нашых народаў. Тыя падзеі прывялі таксама да прыняцьця ў Ялце ў 1945 годзе рашэньняў, якія пачалі новы этап прыгнёту ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, які доўжыўся паўстагодзьдзя;

***Памятаем***, што слабасьць міжнароднай рэакцыі на эскаляцыю перад Другой Сусьветнай вайною таталітарных і шавіністычных ідэалёгій, адсутнасьць належнай рэакцыі на парушэньні з боку агрэсараў міжнароднага права, а таксама палітыка саступак заахвоцілі камуністычны і нацыстоўскі рэжымы да агрэсіі, а ў выніку - да падзелу Эўропы;

***Аддаём даніну павагі*** мільёнам ахвяраў агрэсіі і акупацыі нашых краін у XX стагодзьдзі;

***Памятаем*** пра барацьбу беларускіх, літоўскіх, польскіх і ўкраінскіх сілаў антыкамуністычнага й антынацыстоўскага супраціву, якія стварылі маральную аснову для аднаўленьня незалежнасьці нашых дзяржаваў;

***Верым*** у неабходнасьць актывізацыі аб’ектыўных гістарычных дасьледаваньняў і неабходнасьць стрымліваньня сілаў, якія вядуць да спрэчак у нашых дзяржавах;

***Зьвяртаем увагу*** на тое, што агрэсіўная зьнешняя палітыка Расейскай Фэдэрацыяй, расейская акупацыя Крыма, падтрымка і ажыцьцяўленьне Крамлём узброенай інтэрвэнцыі на ўсходзе Украіны, парушэньне асноўных нормаў міжнароднага права і дамоваў, падпісаных з Украінаю, невыкананьне Расеяй дамоўленасьцяў і вядзеньне гібрыднай інфармацыйнай вайны ўяўляюць пагрозу для міру і бясьпекі ўсёй Эўропы;

***Выказваем*** нашую салідарнасьць з усім украінскім народам, у тым ліку з крымскімі татарамі, у пэрыяд гэтых вялікіх выпрабаваньняў;

***Падкрэсьліваем*** наш удзел і зацікаўленасьць у мерапрыемствах на карысьць мірнага вырашэньня канфлікту на ўсходзе Украіны і аднаўленьня яе тэрытарыяльнай цэласнасьці;

***Падкрэсьліваем*** неабходнасьць адзінства дзеяньняў у рамках Арганізацыі Паўночнаатлянтычнае Дамовы супраць новых пагрозаў і выказваем падтрымку паглыбленьню супрацоўніцтва Альянса з Украінай і яе стратэгічнай мэце атрымаць сяброўства ў НАТО;

***Заклікаем*** усіх эўрапейскіх партнэраў паказаць адзінства і міжнародную салідарнасьць дзеля абароны Аб'яднанае Эўропы ад вонкавай агрэсіі;

***Заклікаем*** усе народы Эўропы памятаць пра прычыны і наступствы Другой Сусьветнай вайны, а таксама прыкласьці сумесныя намаганьні для абароны бясьпекі і свабоды.



RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

---

*Unofficial translation*

October 30, 2016

**Declaration of Memory and Solidarity**

**by the Rada of the Belarusian Democratic Republic in Exile**

***Guided*** by the spirit of solidarity among the peoples of Belarus, the Republic of Lithuania, the Republic of Poland and Ukraine;

***Acting*** in the spirit of the unity of the strategic interests of Belarus, the Republic of Lithuania, the Republic of Poland and Ukraine;

***Stressing*** our unwavering commitment to the fundamental principles of international law and to the common defence of the national sovereignty, territorial integrity and inviolability of the borders of each of our countries;

***Recalling*** the great historic sacrifice of our nations to defend their freedom and independence;

***Noting*** the fact that the National Assembly of the Republic of Belarus has not joined the Declaration of Memory and Solidarity; that the current official government of Belarus openly positions itself as a successor to and continuator of the policies of the totalitarian Soviet regime and that the establishment and remaining in power of the incumbent authoritarian neo-Soviet regime in Belarus for many years became possible due largely to its support from the Russian Federation;

***Striving*** to defend freedom and ensure that our nations live in dignity within a united Europe;

**We, the representatives of the Rada of the Belarusian Democratic Republic in Exile,**

***Join*** the Declaration of Memory and Solidarity adopted by the representatives of the Sejm of the Republic of Poland and the *Verkhovna Rada* of Ukraine to pay homage to the memory of millions of victims of our nations during World War II and to condemn external aggressors who attempted to destroy our national independence,

***Note*** the fact that the Ribbentrop-Molotov Pact concluded on 23 August 1939 between two totalitarian regimes – the Communist USSR and Nazi Germany – led to the outbreak of the Second World War caused by the aggression of Germany that was joined by the Soviet Union on 17 September 1939. As a consequence of those events, the territories of our countries were occupied. The occupation led to mass-scale repressions against our peoples. These events also led to the approval of decisions in Yalta in 1945, which enslaved Eastern and Central Europe for half a century,

***Remember*** that it was the weakness of international response to the rise of totalitarian and chauvinistic ideologies and the absence of necessary response towards aggressors flouting international law, as well as the policy of appeasement that encouraged the aggression of the Communist and Nazi regimes and the ensuing division of Europe,

***Pay homage*** to the millions of victims of aggression and occupation of our lands in the 20th century,

***Remember*** the heroic resistance of Belarusian, Lithuanian, Polish and Ukrainian anti-Communist and anti-Nazi forces, who laid a moral foundation for the restoration of independence of our countries,

***Believe*** in the need to strengthen unbiased historical research and to restrain those forces that provoke controversy in our countries,

***Highlight*** that the aggressive foreign policy of the Russian Federation, the Russian occupation of Crimea, implementation and support by the Kremlin of the military intervention in eastern Ukraine, the violation of the fundamental norms of international law and treaties concluded with Ukraine, the failure by Russia to honour its agreements and its hybrid information war are posing a threat to peace and security in the whole of Europe,

***Express*** our solidarity with the entire Ukrainian people, including Crimean Tatars, in this period of great trial,

***Underline*** the joint commitment to measures towards a peaceful settlement of the conflict in the east of Ukraine and the restoration of its territorial integrity,

***Emphasize*** the need for cohesive actions in the framework of the North Atlantic Treaty Organisation against new threats and express support to a deeper cooperation between the Alliance and Ukraine as well as to Ukraine's strategic goal of becoming a NATO member,

***Urge*** all European partners to demonstrate unity and international solidarity to protect a United Europe from external aggression,

***Urge*** all peoples of Europe to remember the causes and consequences of World War II and to make joint efforts to defend security and freedom.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

24 лістапада 2016 г.

**Заява**

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
з нагоды гадавіны рэфэрэндуму ў Беларусі ў 1996 г.**

У гэтыя дні спаўняецца дваццаць гадоў пасьля сумнавядомага рэфэрэндуму, які быў праведзены ўладамі Беларусі ў 1996 г.

Рэфэрэндум 1996 г. быў арганізаваны і праведзены з істотнымі парушэньнямі тагачаснага беларускага заканадаўства, што робіць ягоныя вынікі юрыдычна нядзейснымі. Ён стаў вырашальным этапам канстытуцыйнага пераваротy, зьдзейсьненага групай асобаў на чале з прэзыдэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

Незаконны рэфэрэндум стаў фармальным прыкрыцьцём для канчатковага зьнішчэньня дэмакратычных здабыткаў Беларусі канцу 80-х і пачатку 90-х гадоў. Беларускае грамадзтва і беларускі парлямэнт былі канчаткова пазбаўленыя кантролю над выканаўчай уладай, быў нанесены ўдар па мясцовым самакіраваньні, а перанос Дня незалежнасьці Беларусі стаў чарговым ударам па беларускіх нацыянальных каштоўнасьцях.

Беларусь была ператвораная ў апошнюю дыктатуру на эўрапейскім кантынэнце, якою яна застаецца вось ужо дваццаць гадоў.

Канстытуцыйны пераварот 1995-1996 гг. прывёў да міжнароднай ізаляцыі Беларусі, паставіў яе ў надзвычай высокую залежнасьць ад Расеі, пазбавіў пэрспэктываў эўрапейскай інтэграцыі, што прадстаўляе непасярэдную

небясьпеку дзяржаўнаму сувэрэнітэту Беларусі. Гэтая небясьпека зрабілася асабліва востраю пасьля падзеяў ва Ўкраіне ў 2014 г.

Рада БНР адзначае дэструктыўную ролю Расейскай Фэдэрацыі ў пераварoце 1995-1996 гг. Расейская Фэдэрацыя ў асобе прэзыдэнта Барыса Ельцына, кіраўніцтва ўраду, Дзяржаўнай Думы і Рады Фэдэрацыі аказала непасярэдную падтрымку ўсталяваньню аўтарытарнаму рэжыму А. Лукашэнкі, праінгаравала яскравыя факты парушэньня правоў чалавека і дэмакратычных стандартаў уладамі Беларусі тады і ў наступныя гады. Рада БНР расцэньвае расейскую палітыку падтрымкі дыктатарскага рэжыму А. Лукашэнкі безадказнай і варожай у дачыненьні да Беларусі. Гэтая падтрымка нанесла і працягвае наносіць істотную шкоду добрасуседзкім стасункам між народамі Беларусі і Расеі.

Рада БНР заклікае ўлады Беларусі да правядзеньня датэрміновых свабодных і дэмакратычных выбараў ува ўсе органы ўлады. Вяртаньне Беларусі на шлях будаваньня дэмакратычнай прававой дзяржавы, зь якога яна збочыла ў 1996 годзе, ёсьць жыцьцёвая неабходнасьць і найважнейшы прыярытэт з пункту гледжаньня беларускіх нацыянальных і дзяржаўных інтарэсаў.



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

КАНЦЫЛЯРЫЯ СТАРШЫНІ

---

**Віншаваньне з угодкамі Слуцкага Збройнага Чыну**
**ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы**

Дарагія Суродзічы Беларусы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, віншую вас з угодкамі адной з найбольш гераічных падзей у нашай гісторыі – Слуцкім Збройным Чынам!

Так доўга як памятаю, Беларусы ў вольным сьвеце адзначалі ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну, як сваё вялікае Сьвята Памяці, памяці тых дзесяці тысяч Случчакоў, якія дабраахвотна пайшлі бараніць сваю праўду і сваю зямлю перад бальшавіцкай навалай. Гэта было першае войска Беларускай Народнай Рэспублікі.

Нягледзячы на адсутнасьць адэкватнай зброі, Случчакі на працягу цэлага месяца – ад 27-га лістапада да 29-га сьнежня 1920 году – баранілі свой край.

На жаль, ня ўсе змаганьні канчаюцца перамогай. У гэтым выпадку, здрада так званых «саюзьнікаў» была асабліва балючай. Але паўтару тут словы прафэсара Анатоля Грыцкевіча: «Гэта быў патрыятычны чын беларускага сялянства і інтэлігенцыі ў барацьбе за незалежнасьць з легальнай, дэмакратычнай уладай».

Прашу ўсіх вас, дарагія суродзічы, аддаць даніну павагі нашым слуцкім героям!

Яны заслужылі на нашую памяць і на нашую ўдзячнасьць.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

Лістапад 2016



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

КАНЦЫЛЯРЫЯ СТАРШЫНІ

---

Атава, 10 сьнежня 2016 г.

**Прывітальны ліст Старшыні Рады БНР да асьвячэньня Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага і Ўсіх Сьвятых Апекуноў Беларускага Народа ў Лёндане**

Дарагі айцец Сяргей, дарагія суродзічы-беларусы ў Вялікай Брытаніі,

Вестка пра высьвячэньне беларускага храму ў Лёндане напоўніла сэрца радасьцю, і я вельмі шкадую, што не магу асабіста прысутнічаць на гэтай падзеі. На жаль, штораз цяжэй пералятаць праз акіян.

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і ад сябе асабіста шчыра віншую вас, дарагі айцец Сяргей, і ўсіх, хто спрычыніўся да пабудовы сьвятыні – і перадусім бліскучага архітэктара Рафаэля Цзыўай Со. Пабудавалі Вы ня толькі першую драўляную сьвятыню ў Лёндане ад Вялікага пажару XVII стагодзьдзя, але і першую беларускую сьвятыню ў Заходняй Эўропе. Даказалі Вы гэтым і сваім, і чужым, што “жывая яшчэ душа ў народзе гэтым”.

Беларускі асяродак у паўночным Лёндане заўсёды быў асабліва мілым мейсцам для мяне і многіх беларусаў з усяго сьвету. Зь ім зьвязаныя імёны такіх слаўных людзей, як біскуп Чэслаў Сіповіч, як а. Леў Гарошка і, канечне ж, а. Аляксандар Надсан, які пакінуў нас зусім нядаўна. Гэтыя людзі, будучы дзесяцігодзьдзямі адарваныя ад Беларусі, штодзённа маліліся за яе, дбалі пра беларускую культуру і беларускую спадчыну на чужыне, каб, пранесшы яе празь ліхалецьце, перадаць адроджанай вольнай Бацькаўшчыне.

Асабіста Вам удзячная, што прысьвяцілі храм ахвярам Чарнобылю. Дай Божа, каб бяда гэтая ніколі больш не паўтаралася на нашай зямлі.

Адкрыцьцё беларускае царквы – гэта падзея ня толькі рэлігійная. Новы беларускі храм будзе важным сымбалям беларускай культурнай прысутнасьці ў адным з найбольш важных гарадоў сьвету і месцам, дзе беларусы змогуць надалей маліцца Богу на мове сваіх продкаў. Сёньня вялікае сьвята для ўсіх беларусаў незалежна ад веравызнаньня і ад таго, у якой частцы сьвету яны жывуць.

Івонка Сурвілла

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**



RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

OFFICE OF THE PRESIDENT

---

Ottawa, December 17, 2016

**Official Greeting by the President of the Rada of the Belarusian Democratic Republic to the blessing ceremony of the Church of St. Cyril of Turaŭ and all Patron Saints of the Belarusian People, London**

Dear and Reverend Father Siarhiej, dear fellow Belarusians of the United Kingdom,

The news about the consecration of the Belarusian church in London has filled my heart with joy, and I regret that I cannot be present at the ceremony. Unfortunately, it becomes harder for me to travel over the ocean.

On behalf of the Rada of the Belarusian Democratic Republic and personally, I sincerely congratulate you, dear Father Siarhiej, and all those who have contributed to the construction of the church – especially its brilliant architect, Raphael Tszwai So. You have built not only the first wooden church in London since the Great Fire in the 17th century, but also the first Belarusian church in Western Europe. By this you have proven that “the spirit still lives in this nation”, as our great poet Maksim Bahdanovič wrote.

The Belarusian community in northern London has always been a very special place for me and for many Belarusians around the world. It is related to such remarkable personalities as Bishop Ceslaus Sipovich, Father Leo Haroshka and, of course, Father Alexander Nadson who passed away not long ago. Having been torn from Belarus, they prayed daily for their homeland and took care of Belarusian culture and Belarusian heritage abroad, in order to bring it back to a free Belarus.

I am especially grateful to you for dedicating this church to the victims of the Chernobyl catastrophe. May God protect us from such disasters in the future.

The opening of a Belarusian church is not only a religious event. It will be an important symbol of Belarusian cultural presence in one of the world's most important cities, and a place where Belarusians will pray to God in the language of their ancestors. This day marks an important and joyous event for all Belarusians, regardless of religion and country of residence.

Івонка Сурвілла

**Ivonka Survilla**

**President of the Rada of the Belarusian Democratic Republic in Exile**



РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

19 сьнежня 2016 г.

**Заява**

**Рады Беларускае Народнае Рэспублікі**
**аб сытуацыі вакол тэлеканалу “Белсат”**

Рада БНР сур’ёзна занепакоеная паведамленьнямі аб пагрозе існаваньню тэлеканалу “Белсат”.

За гады сваёй працы “Белсат” стаў адным з найбольш уплывовых беларускіх СМІ, вельмі яскравай і вельмі важнай зьявай у беларускай мэдыйнай прасторы. Гэта ўнікальная пляцоўка для выказваньня незалежнай ад уладаў думкі.

“Белсат” – адзіны ў сьвеце тэлеканал, які вяшчае на беларускай мове. Калектыў “Белсата” стварыў выдатныя перадачы й дакумэнтальныя фільмы. Ва ўмовах панаваньня ў Беларусі дыктатарскага рэжыму, які займаецца дыскрымінацыяй беларускай мовы й беларускай культуры, працягвае савецкую шавіністычную палітыку русіфікацыі і зьнішчэньня беларускасьці, “Белсат” грае вялізную ролю ў якасьці ня толькі СМІ, але й як культурніцкая зьява.

Стварэньне й падтрымка Белсата – гэта неацэнны ўнёсак Польшчы ў падмурак беларуска-польскага сяброўства. Дзякуючы “Белсату” Польшча замацавала падтрымку сярод найбольш прагрэсіўнай часткі беларускага грамадзтва. Беларусы заўжды будуць удзячныя Польшчы за “Белсат”.

Закрыцьцё тэлеканалу альбо ягонае перафарматаваньне было б сур’ёзным ударам па свабодзе слова ў Беларусі і згуляла б на карысьць дыктатарскаму рэжыму А. Лукашэнкі ў Беларусі і ягоным традыцыйным

спонсарам – агрэсіўным расейскім нацыяналістычным элітам. Гэта было б ударам па інтарэсах дэмакратыі і бясьпекі ў нашым рэгіёне.

Рада БНР зьвяртаецца да ўладаў Польшчы і да Эўрапейскага Зьвязу з просьбай падтрымаць далейшае існаваньне тэлеканалу “Белсат” як незалежнага беларускага беларускамоўнага тэлеканалу.



RADA OF THE BELARUSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

---

December 19, 2016

**Statement**

**By the Rada of the Belarusian Democratic Republic**
**Concerning the situation around the TV channel Belsat**

The Rada of the Belarusian Democratic Republic is seriously concerned by the possible threat to the existence of the TV channel Belsat.

During its existence, Belsat has become one of the most influential Belarusian publications, a bright and highly important phenomenon on the Belarusian media landscape.

Belsat is the only TV channel in the world broadcasting in Belarusian language. It is a unique platform for opinions independent from the Belarusian government as evidenced through the excellent shows and documentaries produced by Belsat journalists. Under the conditions of a dictatorial regime in Belarus, which discriminates against the Belarusian language and culture, and continues the Soviet chauvinistic policy of Russification and destruction of the Belarusian identity, Belsat plays a crucial role not only as a mass medium but also as a cultural phenomenon.

The creation and support of Belsat have been a key contribution of Poland to the Polish-Belarusian friendship. Thanks to Belsat, Poland has gained in its profile as a progressive energy in the support of Belarusian civil society.

The closure or reformatting of the channel would be a serious blow to the freedom of press in Belarus and would benefit the dictatorial regime of

